# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 16 (1208) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 22 КРАСАВІКА 1979 г. ЦАНА 1 зл.







# ВЫДАТНЫЯ ДАСЯГНЕННІ І АМБІТНЫЯ ПЛАНЫ

У Варшаве **21 красавіка 1979** года пачынае працу **Х Краёвы з'езд Таварыства польска-савецкай дружбы.** З гэтай знамянальнай нагоды „Ніва" звярнулася да сакратара Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку **Мар'і Альшэўскай-Трахімяк** з некалькімі пытаннямі.

**„Ніва":** Беласточчына славіцца самаахвярнай дзейнасцю прыяцеляў Савецкага Саюза. Зразумела, што ў адной размове немагчыма пералічыць усе дасягненні ТППР у нашым ваяводстве. Таму я папрашу вас, таварыш сакратар, прыпомніць найбольш важныя.

**М. Альшэўская-Трахімяк:** Так, прыяцелі Савецкага Саюза на Беласточчыне маюць вялікія дасягненні ва ўсіх самых разнастайных галінах сваёй дзейнасці, а шэрагі ТППР павялічваюцца проста на вачах. Ад чэрвеня мінулага года прыбыло нам 30 тысяч новых членаў. Усяго некалькі дзён таму назад адбылося ўрачыстае ўручэнне **стотысячнага** членскага білета ТППР у Беластоцкім ваяводстве. І гэтая праўдзівая армія высакародных людзей розных узростаў і прафесій робіць мноства добрых спраў.

У гонар 60-й гадавіны Вялікага Кастрычніка працоўныя Беласточчыны выканалі дадатковыя вытворчыя абавязацельствы вартасцю звыш 103 мільёны злотых. Тады разгарнулася спаборніцтва за ганаровае званне Брыгады 60-годдзя Кастрычніцкай Рэвалюцыі і 250 брыгад заваявала яго. Дагэтуль на Беласточчыне сабрана на пабудову ў Варшаве „Дома Дружбы" звыш 800 тысяч злотых, і ўся гэтая сума паходзіць з нашых канцэртаў, фэстынаў, грамадскіх пачынаў, збірання макулатуры і г.д. Рушыла дзейнасць і ў вёсцы, напрыклад, у Паўлах Заблудаўскай гміны ўсе сяляне належаць да ТППР, а ў Нараўцы сялянкі зароблены ў грамадскай працы грошы ахвяравалі на пабудову помніка савецкім воінам, загінуўшым у часе вызвалення гэтага мястэчка.

У нас наогул вельмі ўдала праходзіць культурна-асветная праца. Правялі мы шэраг навукова-папулярных сесій на такія тэмы, як „Дасягненні савецкай навукі і тэхнікі", „Фелікс Дзяржынскі — вялікі сын польскага народа", „Развіццё навукі і культуры ў СССР за 60 год Савецкай улады" і інш. Адбылося каля 15 семінараў для нашых лектараў, між іншым, на тэмы „Замежная палітыка СССР у справе ўмацавання міру на свеце і міжнароднага супрацоўніцтва", „Грамадска-гаспадарчыя пераўтварэнні ў СССР у святле рашэнняў XXV з'езду КПСС". Нашыя лектары правялі каля 400 дакладаў і гутарак у розных асяроддзях. Беласточчыну наведала шэраг выдатных грамадскіх дзеячоў і вучоных з СССР, сярод іх пастаянна з намі супрацоўнічаючыя рэктары Д. Маслакоў і Ю. Ягораў з Гродна, дацэнты М. Ясенскі і М. Сыч з Мінска і многа іншых, з імі адбыліся вельмі цікавыя сустрэчы.

**„Ніва":** А на што б вы звярнулі ўвагу ў мастацкай дзейнасці і іншых формах працы?

**М. Альшэўская-Трахімяк:** Зразумела, перш за ўсё на конкурсы савецкай песні. Рэдка хто памятае, што іменна ў нас, на Беласточчыне, 19 год таму назад нарадзілася і пачала ажыццяўляцца ідэя штогод праводзіць такія конкурсы. Цяпер яны сталі самым масавым конкурсам ва ўсёй Польшчы і ў нас, на Беласточчыне, у іх прымае ўдзел кожны год звыш 12 тысяч спевакоў! А з Зялёнай Гуры нашыя вакалісты прывозілі высокія ўзнагароды. А колькі цудоўных канцэртаў далі савецкія артысты на сцэнах Беластока і іншых нашых гарадоў! Арганізавалі мы многа выставак і фотавыставак, між іншым, „Народная творчасць Беларусі і Літвы". Дружыць — значыць ведаць свайго сябру. Таму нашыя прадстаўнікі на алімпіядах ведаў аб СССР ці па рускай мове займаюць добрыя месцы, а ў мінулым годзе беластачанка **Мілена Кураш** здабыла **першае месца і залатую медаль на Міжнароднай алімпіядзе рускай мовы ў Маскве.**

**„Ніва":** У якіх асноўных напрамках будзе развівацца дзейнасць ТППР на Беласточчыне ў бліжэйшыя гады?

**М. Альшэўская-Трахімяк:** Будзем пашыраць і паглыбляць усе ранейшыя напрамкі нашай працы. Пры гэтым асаблівую ўвагу звернем на павелічэнне колькасці членаў і гурткоў ТППР у вёсках, асабліва сярод вясковых жанчын і моладзі. Ужо маем заахвочваючыя вынікі: пры многіх гуртках КГВ паўсталі нашыя гурткі, а 34 члены калектыву маладых сялян у Есяноўцы таксама арганізавалі гурток ТППР. Будзем больш сялян і сялянак уключаць у „Паязды дружбы", а таксама арганізоўваць некалькідзённыя экскурсіі па Гродзеншчыне. Плануем правесці навукова-папулярную сесію аб дасягненнях савецкай сельскай гаспадаркі. Вопыт вельмі ўдалых „Нядзеляў дружбы" расшырым, хочам, каб на нашу вёску часцей і больш траплялі савецкі фільм, друк, кніга.

(Працяг на стар. 4)

# ДЭЛЕГАТ

Традыцыі прыязні да Савецкага Саюза ў **Трасцянцы,** што ў Нараўскай гміне, нараджаліся яшчэ ў часы Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. Іменна тады, прабываючы ў бежанцах у глыбі Расіі або служачы ў рускай арміі, многія трасцянцы разам са сваімі рускімі таварышамі і прадстаўнікамі іншых народаў змагаліся за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады, служылі ў Чырвонай Гвардыі, дзейнічалі ў чырвоных партызанах на тылах калчакоўскай арміі. Байцамі Вялікага Кастрычніка, між іншым, былі Андрэй Астроўка і Васіль Сідарук. Ідэі змагання супраць сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, авеяныя рамантыкай рэвалюцыйных бітваў, жылі ў сэрцах трасцянцаў і пасля іх вяртання ў роднае сяло. Яны выявіліся ў вельмі актыўнай дзейнасці трасцянскай арга-

Працяг на стар. 4



# АГЛЯД ТЭАТРАЛЬНЫХ КАЛЕКТЫВАЎ

У гайнаўскім Доме культуры 1 красавіка бягучага года адбыўся агляд тэатральных калектываў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Прынялі ў ім удзел самадзейнікі з бельскага белліцэя, Меляшкоў, Рыбалаў, Арэшкава і Беластока.

Адметнай рысай агляду была разнастайнасць п'ес і іх праблематыкі.

Першым выступіў на гайнаўскай сцэне сяміасабовы тэатральны калектыў з Бельскага беларускага ліцэя (у ім вучні трэцяга і чацвертага класаў), які вядзе настаўніца беларускай мовы ў гэтым жа ліцэі — Вера Рышчук. Ставіў ён п'есу А. Маўзона „Пад адным небам". Выступалі: Анна Хурса, Галіна Семянюк, Яўгенія Ляшэўская, Уладзімір Кобусь, Міхась Максімюк, Павел Кудэрскі, Мікалай Хіліманюк. Усе яны не часта выступалі на сцэне і таму ў іх ігры было замала натуральнасці. Канфліктныя сцэны не зрабілі вялікага ўражання на гледача, хаця датычылі яны сучаснага жыцця і блізкіх для ўсіх спраў. Словам, былі сыграны заспакойна. Відаць, не ўсе маладыя акцёры ўнутрана перажылі свае ролі, ды не адчулі іх глыбокага сэнсу. Не пры чым тут тое, што выконвалі іх акцёрыаматары. Яны ж выступалі перад публікай. Здаецца, акцёры з Бельска замала папрацавалі над ролямі.

Для пачынаючых гэты сцэнічны твор не быў трапна выбраны, хаця было пра дзявоча-хлапецкае хваляванне ў час, калі пачынала нараджацца нясмелае каханне. Але было яно няспоўненае і таму пакутлівае. Было пра каханне ў сям'і. Было пра маладзецкую самаахвярнасць. Было і пра любоў, прасякнутую паэзіяй найвышэйшых лётаў. Адным

(Працяг на стар. 4)



*Арэшкаўскія самадзейнікі паказалі на гайнаўскай сцэне інсцэніроўку аб тым, як некалі на вёсцы рыхтавалі вясельны каравай.*

З украінскага гумару

## СТАЎ, СЫНКУ, НА ПАЛІЦУ

У нашым сяле жыла прыгожая маладая ўдава Кацярына.

Дальбог, пашукаць, красуня! Да прывабнай маладзіцы заляцаўся даволі-такі нішто сабе статны ўдавец.

Усё было б, як было, ды атрымалася дзіўна-дзівосная нечаканасць: Катруся трапілася да спадобы і сыну ўдаўца — дваццаціпяцігадоваму Сцяпану.

Праз сваё няўдалае каханне Сцяпан і расказаў мне потым:

— Прыходжу, — кажа, — я аднаго вечара да Кацярыны са збанком — збанок мёду прынёс. (Дарэчы — у гэтага ўдаўца была ўласная пасека пчол з трох вулляў). Зайшоў, — кажа Сцяпан. — Зачыніў дзверы і стаў ля парога... У хаце змрочна, бо такая падслепаватая газнічка, што стаяла на падаконніку, далей носа не асвятляла.

— Добры вечар табе, Катруся! — прыветліва кажу.

— Драстуй, Сцёпа, драстуй! Чаго завітаў?

— Ды от... прынёс табе, Каця, гасцінца. Збанок мёду. Куды табе яго паставіць?

А я, сляпец, і не бачу — нічога ж не відно, — што бацька ляжыць на ўслоне.

— К-хе! Стаў, сынок, на паліцу, у мыцельнік. Я ўжо туды свой паставіў.

**Аляксандр Кавінька**



*Без слоў.*

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Ехаў „Жыгулямі" муж з жонкай. Не зважаючы на знак „Кругавы рух", паехаў прама. Спыніў яго аўтаінспектар. Муж выйшаў з машыны, просіцца, кажучы, што ён едзе тут упершыню і не прыкмеціў знака. Аўтаінспектар падыйшоў да пасажыркі:

— Вы бачылі знак, які толькі што праехалі?

— Бачыла і казала, але дарма...

Прабіваючы дзірку ў талоне вадзіцелю, аўтаінспектар загадваў:

— Жонку трэба слухаць!

*

Прыйшоў Гаўрыла да Данілы раіцца:

— Як думаеш, што мне лепш разводзіць: курэй ці свіней?

— Спачатку разведай, што ў калгасе вырошчваць будуць: кукурузу ці проса.

*

У Рыты Іванавай любімы выраз: „адзін малады інцярэсны". Ёй часта званяць па тэлефоне.

Аднойчы бацька зняў тэлефонную трубку і буркнуў:

— Зараз! — і да Рыты: — Да цябе... адзін малады інцярэсны.

— Адкуль ты ведаеш, тата?

— У трубцы вусікамі шуршыць...





**ТРЫМАЙЦЕ ВУХА!**

### „ШАХЦЁР"

На базе Глеб рабіў шафёрам.
А называлі ўсе — шахцёрам.

Казалі — нават з-пад зямлі
Дастаць ён мог, што трэба...
Ды раптам — пяць гадоў далі
За што?
Спытайце ў Глеба.

Відаць, махляр перастараўся —
Глыбока дужа закапаўся!

**Мікола Чарняўскі**

З „Весніка Задрыпоніі"

### УНІКАЛЬНАЯ КАЛЕКЦЫЯ

У зборы калекцыянера Грашовіча захоўваюцца ўнікальныя грашовыя купюры. У тым ліку: 200 злотых, ад якіх адмовіўся закройшчык; 100 злотых, ад якіх адмовіўся вадаправодчык; 50 грошай — рэшта, атрыманая ў рэстаране.

### ПЕРАРВАНЫ СТАЖ

— Кастусь, а чаму б і вам не адсвяткаваць сярэбранага вяселля? Вы ж дваццаць пяць год са сваёй Маланкай пражылі.

— Ды яно б і можна, але ў нас стаж перарваны.



MADE IN ZADRYPANKA

**Стараўся не сварыцца з-за глупстваў — бярог сілы для вялікага скандалу.**





*Гістарычны факт.*

### АПРАЎДАЎСЯ

— Міколка, чаму ты ўчора не быў у школе? — спытала настаўніца.

— Я памагаў бацьку, — адказаў Міколка.

— А што рабіў твой бацька?

— Спаў...

### НЕСУЦЯШАЛЬНЫ ДЫЯГНОЗ

Паэт Салавейчык у доктара Знахарука.

— Кажуць, геніяльнасць — гэта хвароба.

— Не хвалюйцеся: вы цалкам здаровы.

З беларускага гумару

### ПАДРЫХТАВАЎСЯ

У доме адпачынку мастак і адпачывае, і працуе. Тут у яго шмат знаёмых людзей. Аднойчы мастак заўважыў адно надта прыкметнае аблічча. Пазнаёміўся. Рабочы-качагар, ударнік. Ветэран працы... Белыя пышныя вусы, як у будзёнаўца, так і прасіліся на партрэт.

Мастак пачаў прасіць, каб дзядзька папазіраваў. Той спачатку ўпіраўся, але, нарэшце, даў згоду.

Назаўтра, як дамовіліся, пасля снедання, ён прыйшоў да мастака ў пакой. Прыйшоў ветэран... без сваіх знакамітых вусоў...

Мастак збянтэжаны: навошта качагар абрыў свой гераічнафасоністы выгляд? Божухна, хіба майстар пэндзля мог падумаць, што на вусы, якія ён упадабаў, цырульнік яшчэ да снедання вастры брытву.

— Падмаладзіў сябе, — прызнаецца дзядзька. — Каб вам лягчэй было намаляваць такім, якім я калісьці даваў да двухсот працэнтаў... Ну, што трэба! Падрыхтаваўся, як у фатаграфію...

**І. Грамовіч**

### ПЕСНІ НА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Назарук з Орлі змяшчаем песню*

## МОЙ АДРЕС СОВЕТСКИЙ СОЮЗ

**Слова В. Харитонова**
**Музыка Д. Тухманова**

Колеса диктуют вагонные,
Где срочно увидеться нам.
Мои номера телефонные
Разбросаны по городам.

Припев:
Заботится сердце,
сердце волнуется,
Почтовый пакуется груз...
Мой адрес не дом и не улица,
Мой адрес — Советский Союз!

Вы, точки-тире телеграфные,
Ищите на стройках меня.
Сегодня не личное главное,
А сводки рабочего дня.

Припев.



*Дыялог.*

### ЗДЗІВІЎСЯ

Кіраўнік установы звяртаецца да новапрынятага службоўца:

— Папярэджваю, што ў нас у рабочы час нельга ні размаўляць, ні курыць.

— А што тады ў вас робяць цэлы дзень? — спытаў здзіўлены службовец.



### ТРАГЕДЫЯ

— Любанька, — звярнулася гаспадыня да кватаранткі, — ваш брат ужо перастаў наведвацца, праўда?

— Той нягоднік ужо знайшоў сабе іншую сястру.

## Курёзы

### БІЗНЕС ВЫСАКАРОДНЫ

Нью-Йоркская прыгажуня Келлі Эвертс заваявала рэпутацыю адной з лепшых прадстаўніц стрыптызу. Яна дасягнула ў гэтым сэнсе вышэйшага класа, з нязменным поспехам выступае ў начных клубах і кабарэ, ахвотна дазваляе фатаграфаваць свае выступленні для кіно, бульварных газет і часопісаў. І нездарма аматары гэтага відовішча Келлі Эвертс аднадушна прысуджаны высокі тытул „Голай міс-універсам".

Між тым у апошнія гады амерыканскую публіку цяжка здзівіць якім-небудзь незвычайным стрыптызам. Больш таго, многія папракаюць Келлі Эвертс за тое, што яна выстаўляецца напаказ у голым выглядзе не задарма, а з разлікам зарабіць грошы, нічога не робячы, што яна грэшна спекулюе прыроднай прыгажосцю, у чым няма яе ўласнай заслугі.

Вынаходлівая зорка стрыптызу выказвае свае аргументы. Калі людзі ходзяць глядзець на яе прадстаўленні, дык людзям гэта падабаецца, а значыць, такім чынам яна прыносіць людзям радасць. У свой вольны ад „работы" час яна, Келлі Эвертс, выступае перад мужчынамі як прапаведнік вяртання іх да сваіх сямей.

Кожны робіць свой бізнес, як умее.

### ІМЯ ПА БАЦЬКУ

Пасля вайны Яраслаў Войцех — вядомы чэшскі сатырык, былы рэдактар „Дзікабраза", вучыўся ў Ленінградзе. Ленінградцы, людзі ветлівыя, ніяк не маглі прызвычаіцца называць яго без імя па бацьку. Урэшце, да яго пачалі звяртацца так: „Яраслаў Дзікабразавіч".

**Між намі**

**Адкуль такі грукат? Кожны куе сваё шчасце.**